ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 27 (1664) | Аўторак, 3 красавіка 1962 года | Цана 4 кап.

## Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

### АД ТРЭЦЯГА ЎСЕСАЮЗНАГА З'ЕЗДА КАМПАЗІТАРАЎ СССР

**Дэлегаты Трэцяга Усесаюзнага з'езда кампазітараў СССР шлюць гарачае прывітанне роднай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту.**

**Мы, прадстаўнікі многанацыянальнага калектыву савецкіх кампазітараў і музыказнаўцаў, сабраліся ў сталіцы нашай Радзімы для таго, каб падвесці вынікі творчай работы за апошнія гады, усебакова абмеркаваць надзённыя задачы, якія стаяць перад савецкім музычным мастацтвам.**

**Вялікае шчасце — жыць і працаваць у нашы дні, калі светлы заранак камунізма ўзнімаецца над неабсяжнымі прасторамі магутнай Савецкай дзяржавы, асвятляючы шлях у будучыню. Мудрыя прадвызначэнні XXII з'езда Камуністычнай партыі натхняюць нас, як і ўсіх савецкіх людзей, на творчую працу, выклікаюць жаданне працаваць лепш, больш і больш плённа.**

**З глыбокай удзячнасцю ўспрынялі савецкія кампазітары і музыказнаўцы прывітанне ЦК КПСС Трэцяму Усесаюзнаму з'езду кампазітараў СССР, у якім дадзена высокая ацэнка дасягненняў савецкай музыкі і выказана ўпэўненасць у новых яе творчых перамогах. З'езд запэўняе Цэнтральны Камітэт, што савецкія музыканты апраўдаюць давер'е партыі і аддадуць усе свае сілы, здольнасці і веды будаўніцтву музычнай культуры камунізма.**

**Мы заўсёды адчуваем клопаты партыі, якая вядзе нас па ленінскім шляху, падтрымлівае ўсё каштоўнае, праўдзівае і змястоўнае ў нашай творчасці. Савецкая музыка на працягу ўсёй сваёй гісторыі развівалася як арганічная частка сацыялістычнай культуры. Лепшыя творы савецкай музыкі атрымалі шырокае прызнанне ў нашай краіне і за рубяжом, несучы ўсяму свету высокія і высакародныя ідэі сацыялістычнага гуманізму.**

**Нас глыбока радуе і натхняе ўвага, якая нададзена мастацтву ў новай Праграме КПСС — Камуністычным маніфесце нашай эпохі. Мы лічым ганаровым абавязкам удзельнічаць сваёй творчасцю ў выхаванні новага чалавека камуністычнага грамадства, у фарміраванні яго ідэйных перакананняў, маральных і эстэтычных ідэалаў. Барацьба за перамогу новага, камуністычнага, яркае, праўдзівае ўвасабленне вобразаў сацыялістычнай сучаснасці, гераічнай працы савецкіх людзей складаюць галоўную задачу музычнай творчасці.**

**Па меры ўзмацнення ролі мастацтва ў жыцці будаўнікоў камуністычнага грамадства ўзрастаюць і патрабаванні да яго. Толькі тое мастацтва варта нашага часу, якое здольна па-сапраўднаму хваляваць, захапіць чалавека, узбагаціць яго духоўны свет, прынесці высокае эстэтычнае задавальненне. Змагаючыся за ідэйную чысціню, мастацкую дасканаласць савецкай музыкі, мы будзем непрымірымымі да любых праяў мяшчанскай безгустоўнасці, рамесніцтва, фармалістычнага псеўданаватарства. Мы бачым сваю задачу ў тым, каб і далей умацоўваць сувязь з жыццём народа, развіваць наша мастацтва сацыялістычнага рэалізму на аснове камуністычнай ідэйнасці і народнасці.**

**На шляху да камунізма ўмацоўваецца дружба народаў Савецкага Саюза, усё больш зблíжаюцца і ўзаемна ўзбагачаюцца музычныя культуры сацыялістычных нацый. Абавязак савецкіх кампазітараў і музыказнаўцаў — усямерна развіваць і падтрымліваць новыя традыцыі ў музыцы народаў нашай краіны, народжаныя агульным для ўсіх нацыянальных культур сацыялістычным зместам.**

**Важнейшым абавязкам Саюза кампазітараў з'яўляецца актыўны ўдзел у ажыццяўленні велічнай задачы эстэтычнага выхавання народа. Кожны кампазітар і музыказнаўца павінен унесці сваю долю ў гэтую вялікую і высакародную справу.**

**Стварэнне вялікага ўсенароднага мастацтва камунізма, прасякнутага глыбокай ідэйнасцю, аптымізмам і жыццесцвярджальнасцю,— такая тая цудоўная мэта, дасягненню якой будуць аддадзены ўсе творчыя сілы нашай інтэлігенцыі.**

**Мы запэўняем Цэнтральны Камітэт партыі ў тым, што будзем і надалей нястомна працаваць на карысць нашай Радзімы і яе вялікага народа — будаўніка камунізма.**

**Слава Камуністычнай партыі Савецкага Саюза!**

**Слава яе ленінскаму Цэнтральнаму Камітэту!**

## У Вялікім Крамлёўскім

31 сакавіка ў Вялікім Крамлёўскім палацы адбылося заключнае пасяджэнне Трэцяга Усесаюзнага з'езда кампазітараў.

На працягу шасці дзён дэлегаты з'езда абмяркоўвалі даклад першага сакратара праўлення Саюза кампазітараў СССР Ц. Н. Хрэннікава «Да музычнай культуры камунізма», даклад цэнтральнай рэвізійнай камісіі.

Удзельнікі з'езда з вялікім натхненнем прынялі пісьмо Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

З заключнай прамовай на з'ездзе выступіў сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР Д. Б. Кабалеўскі. Ён коратка падвёў вынікі работы, гаварыў аб натхняючым значэнні для далейшай творчасці прывітання ЦК КПСС, пажадаў новых поспехаў савецкім музыкантам. Ад імя дэлегатаў з'езда Д. Б. Кабалеўскі запэўніў ЦК КПСС, што кампазітары аддадуць усе свае сілы служэнню народу, які будуе камунізм.

На з'ездзе былі выбраны новы састаў праўлення і цэнтральная рэвізійная камісія Саюза кампазітараў СССР.

У гонар заканчэння з'езда ў Георгіеўскай зале Вялікага Крамлёўскага палаца прэзідыум з'езда наладзіў прыём. Натхнёныя прывітаннем ЦК КПСС, звернутым да з'езда, кампазітары, музыказнаўцы, музыканты, зарубежныя госці з'езда горача віталі прыйшоўшых да іх таварышаў **Л. І. Брэжнева, Ф. Р. Казлова, А. М. Касыгіна, О. В. Куусінена, А. І. Мікаяна, Д. С. Палянскага, М. А. Суслава, М. С. Хрушчова, П. Н. Дземічава, Л. Ф. Ільічова, Б. М. Панамарова.**

Да прысутных з кароткай прамовай звярнуўся Ц. Хрэннікаў. Ён гаворыць, што III Усесаюзны з'езд кампазітараў прадэманстраваў новыя вялікія поспехі ў развіцці савецкай музычнай творчасці. Гэтыя поспехі звязаны з тымі клопатамі і той увагай, якія праяўляюць аб нас пастаянна Камуністычная партыя і Савецкі ўрад. У адказ на гэтыя клопаты і сардэчную ўвагу мы будзем пастаянна памнажаць дасягненні нашага музычнага мастацтва, з гонарам выконваць тыя задачы, якія паставіла перад намі партыя.

Здравіцы ў гонар Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у гонар Савецкага ўрада, у гонар ленінскага Цэнтральнага Камітэта прысутныя сустракаюць бурнымі апладысментамі.

На прыёме выступілі: ад кампазітараў Расійскай Федэрацыі — Д. Шастаковіч, ад кампазітараў Украіны, Беларусі і Малдавіі — К. Данькевіч, ад кампазітараў Азербайджана, Арменіі і Грузіі — А. Мачаварыяні, ад кампазітараў рэспублік Сярэдняй Азіі і Казахстана — К. Кужам'яраў, ад кампазітараў Латвіі, Літвы і Эстоніі — Э. Бальсіс, ад кампазітараў аўтаномных рэспублік Расійскай Федэрацыі — Н. Жыганаў, кампазітары В. Салаўёў-Сядой, Ю. Шапорын.

Яны абвясцілі тосты за росквіт нашай Радзімы, за непарушную дружбу народаў Савецкага Саюза, за мір і дружбу паміж народамі нашай планеты, за вялікае шматнацыянальнае савецкае мастацтва, за вялікі рускі народ, за ўсе народы савецкай зямлі.

Дружалюбныя тосты з пажаданнем поспехаў савецкім кампазітарам абвясцілі зарубежныя госці з'езда — В. Добіяш (Чэхаславакія), Ж. Леон (Францыя), Хэ Луцін (Кітай), Д. Мойтра (Індыя), З. Ванча (Румынія), Н. Нотавіч (ГДР), К. Фарыньяс (Куба), С. Слядзінскі (Польшча), Т. Шараі (Венгрыя), Ф. Куцеў (Балгарыя), С. Гончык-Сумла (Манголія), М. Вукдрагавіч (Югаславія), Р. Дэфасе (Бельгія), До Нгуан (В'етнам), М. Мамія (Японія), Г. Тыяла (Гвінея).

Гарачымі апладысментамі прысутныя сустрэлі выступленне М. С. Хрушчова.

М. С. Хрушчоў павіншаваў савецкіх кампазітараў з поспехамі ў іх творчасці, ён гаварыў аб той радасці, якую прыносіць музыка ўсім людзям, адзначыў вялікую ролю музыкі ў будаўніцтве камунізма. М. С. Хрушчоў абвяшчае тост за новыя дасягненні савецкай музычнай творчасці, за тое, каб музыка яшчэ лепш служыла народу, каб яна дапамагала жыць і працаваць.

Кожная сустрэча кіраўнікоў Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада з прадстаўнікамі мастацкай інтэлігенцыі выліваецца ў незабыўнае свята.

Такім святам стаў і прыём у гонар Усесаюзнага з'езда кампазітараў. Ён яшчэ раз прадэманстраваў, што савецкае мастацтва карыстаецца гарачай любоўю і падтрымкай народа, Камуністычнай партыі, яе Цэнтральнага Камітэта. Мастацкая інтэлігенцыя імкнецца зрабіць усё, каб апраўдаць высокае давер'е партыі, актыўна, усімі сіламі дапамагаць ёй у камуністычным выхаванні працоўных, у будаўніцтве камунізма.

## МОВА МУЗЫКІ — МОВА МІРУ

### АДКРЫЎСЯ II МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС ІМЯ П. І. ЧАЙКОЎСКАГА

Вельмі шчырую, глыбока чалавечную музыку П. І. Чайкоўскага любяць мільёны людзей на ўсім зямным шары. Адлюстраваннем гэтай любві, павагі, захаплення геніем кампазітара з'явілася ўрачыстае адкрыццё Другога Міжнароднага конкурсу піяністаў, скрыпачоў, віяланчалістаў, які носіць імя выдатнага музыканта. Шэсць тысяч аматараў музыкі прыйшлі 1 красавіка ў Крамлёўскі Палац з'ездаў, каб разам з маладымі ўдзельнікамі конкурсу, сусветна вядомымі музыкантамі — членамі журы—раздзяліць радасць гэтага цудоўнага свята мастацтва.

На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця Другога Міжнароднага конкурсу прысутнічалі таварышы **Ф. Р. Казлоў, А. М. Касыгін, А. І. Мікаян, Д. С. Палянскі, М. С. Хрушчоў, В. В. Грышын, П. Н. Дземічаў, Л. Ф. Ільічоў, В. І. Панамароў, А. Н. Шалепін.**

Адкрываючы ўрачысты сход і вітаючы ўдзельнікаў і гасцей конкурсу, міністр культуры СССР **К. А. Фурцава** гаворыць:

— Мы вельмі рады гэтай сустрэчы, яе высакароднай прычыне, мы з нецярпеннем чакалі яе і старанна рыхтаваліся да яе.

Наша сённяшняе ўрачыстае пасяджэнне, як і ўвесь конкурс, асветлена імем Пятра Ільіча Чайкоўскага. Нашы думкі зноў звернуты да гэтага геніяльнага рускага музыканта. Мы думаем аб прыгажосці і велічы яго мастацтва, поўнага любві да жыцця, да людзей. Створаныя ім творы настолькі глыбокія і цудоўныя, што кожнае новае пакаленне знаходзіць у іх свой сэнс і сваю прыгажосць. Мастак-гуманіст, верны прынцыпам рэалізму і народнасці, Чайкоўскі сцвярджаў сваім мастацтвам веліч чалавечага духу, веру ў жыццё, у дабро і прыгажосць. Якую б грань творчасці Чайкоўскага мы ні разглядалі, кампазітар заўсёды паўстае жывым, сучасным.

Больш месяца працягнецца ў Маскве музычны форум маладых выканаўцаў з розных краін. Няхай жа ў свеце гучаць чароўныя гукі музыкі, якія ўсталёўваюць радасць жыцця на зямлі, так цудоўна ўліваюцца ў агульную сімфонію барацьбы за мір, шчасце і дружбу паміж народамі!

Слова атрымлівае старшыня арганізацыйнага камітэта конкурсу імя Чайкоўскага кампазітар **Д. Д. Шастаковіч.**

Як музыкант я шчаслівы, як савецкі грамадзянін я ганаруся тым, што мая краіна склікала і сардэчна прымае ў сталіцы такі прадстаўнічы і паважаны сход музыкантаў, гаворыць ён. Як чалавек свайго веку я радуюся таму, што конкурс імя Чайкоўскага духам сваім і накіраванасцю сцвярджае высакароднейшыя ідэалы, блізкія ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву.

Мы павінны заўсёды памятаць не толькі аб эстэтычным, але і грамадскім значэнні музыкі. Я хачу сказаць гэта іменна сёння як пажаданне маладым таленавітым музыкантам, якія выходзяць на дарогу вялікага мастацтва.

Я жадаю вялікага творчага поспеху кожнаму ўдзельніку конкурсу! — закончыў сваю прамову Д. Шастаковіч.

Сардэчна сустрэлі прысутныя выступленні членаў журы конкурсу прафесара Парыжскай кансерваторыі Марыса Марашаля і вядомага румынскага дырыжора Джорджэ Джаржэску.

У зале гучаць цёплыя словы прывітання маладым удзельнікам конкурсу. Іх прыслаў лаўрэат І Міжнароднага конкурсу імя П. І. Чайкоўскага Ван Кліберн, тэлеграму якога зачытаў член журы кампазітар **В. Власаў.**

II Міжнародны конкурс імя П. І. Чайкоўскага адкрыты! Прысутным быў паказан балет Чайкоўскага «Лебядзінае возера».

## Узнагароджанне артыста

**Народнага артыста СССР П. С. Малчанава добра ведаюць аматары тэатра нашай рэспублікі. Вобразы, створаныя артыстам, надоўга запамінаюцца гледачам. У сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння і за заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР П. С. Малчанаў узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**



У кніжцы не знойдзеш прозвішча чалавека, які яе друкаваў. А шкада. Колькі чытачоў і аўтараў сказалі б шчырае дзякуй друкару Мінскага паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа Івану Міляўскаму за яго цудоўную работу.

Фота **Ул. Крука.**

## НА ПЯРЭДНІ РУБЕЖ!

### АГУЛЬНЫ СХОД КІНАРАБОТНІКАЎ БЕЛАРУСІ

Якія задачы стаяць перад беларускімі кінематаграфістамі ў святле праграмы камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне, што неабходна зрабіць для таго, каб палепшыць выпуск новых кінафільмаў у рэспубліцы? Аб гэтым ішла прынцыповая размова на агульным сходзе кінаработнікаў Савецкай Беларусі. З дакладам «XXII з'езд КПСС і задачы далейшага развіцця беларускага савецкага кінамастацтва» выступіў старшыня аргбюро Саюза кінематаграфістаў БССР, народны артыст рэспублікі Ул. Корш-Саблін.

— Кінамастацтва заклікана быць, — гаворыць дакладчык, — крыніцай радасці і глыбокага натхнення для мільёнаў савецкіх людзей — будаўнікоў камунізма, яно павінна духоўна ўзбагачаць і выхоўваць чалавека.

За апошнія гады савецкая кінематаграфія дамаглася значных поспехаў. Многія яе творы атрымалі прызнанне савецкага народа, яны адзначаны высокімі ўзнагародамі на міжнародных кінафестывалях.

Што ж стварылі за апошні час беларускія кінематаграфісты? Летась на студыі «Беларусьфільм» у асноўным сіламі маладых рэжысёраў быў пастаўлен фільм «Апавяданні пра юнацтва», які з поспехам дэманстраваўся на экране. Малады рэжысёр В. Вінаградаў нядаўна зняў на сучасным матэрыяле фільм «Дзень, калі спаўняецца трыццаць год». Рэжысёр Л. Голуб заканчвае работу над фільмам «Вуліца малодшага сына».

Разам з тым, гаворыць дакладчык, у рабоце студыі «Беларусьфільм» у 1961 годзе былі прыкрыя памылкі і нават зрывы. Да іх у першую чаргу трэба аднесці няўдачу з пастаноўкай фільма «Нашчадкі Макара Маркаўца». Усіх хвалюе гэтая няўдача, бо гэты твор прысвячаўся жыццю рабочых Мінскага аўтазавода. Вінаватым у правале фільма, побач з аўтарам сцэнарыя М. Гарулёвым і рэжысёрам П. Васілеўскім, Ул. Корш-Саблін лічыць таксама і сябе як былога мастацкага кіраўніка студыі.

Студыя «Беларусьфільм» не мае цвёрдага і ідэйна накіраванага тэматычнага плана. Не вырашана сцэнарная праблема. Адчуваецца недахоп вопытных рэжысёраў.

Вялікую ўвагу дакладчык удзяліў узнятаму на IV пленуме аргкамітэта Саюза работнікаў кінематаграфіі СССР пытанню пра аддзяленне творчага працэсу ад вытворчасці. Нельга мірыцца, сцвярджае ён, з такім становішчам, калі напісанне літаратурнага і рэжысёрскага сцэнарыяў абумоўлівалася тэрмінамі выканання вытворчага плана кінастудый.

У калектыў студыі «Беларусьфільм», гаворыць далей Ул. Корш-Саблін, у апошні час улілося многа маладых творчых работнікаў — рэжысёраў, аператараў, мастакоў. З іх створана маладзёжнае аб'яднанне. Прыток маладых творчых сіл дае падставы спадзявацца, што студыя здолее рашуча палепшыць сваю дзейнасць. Трэба толькі ўважліва і клапатліва дапамагаць маладым кадрам і ўмела спалучаць іх работу з вопытам майстроў старэйшага пакалення.

Затым дакладчык прааналізаваў справы на студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Гэтая студыя выпусціла летась нямала твораў, у якіх паказана і наша гісторыя і наш сучаснік — стваральнік камуністычнага грамадства. Сярод іх «Цытадэль славы», «Яны ідуць першымі», «Дачка партыі», «Маладыя кукурузаводы», «Кандрат Крапіва», «Песні Дзвіны» і інш. Шмат чаго ў гэтых фільмах своеасаблівага па задуме і вырашэнню, але ёсць многа і спрэчнага.

На студыі мелі месца і сур'ёзныя недахопы. Пацярпела няўдачу паўнаметражная шырокаэкранная карціна «Песні роднага краю», забракаваны і не выпушчаны на экраны кінафельетон «У палоне рэчаў». Хроніка не заўсёды бывае аператыўнай.

Далей дакладчык спыніўся на дзейнасці аргбюро Саюза кінематаграфістаў БССР. Пералічыўшы рад карысных мерапрыемстваў, якія ажыццявіла аргбюро, Ул. Корш-Саблін зрабіў самакрытычны вывад, што ўвогуле саюз яшчэ не стаў цэнтрам творчай думкі, не здолеў узначаліць прынцыповую і актыўную барацьбу за вырашэнне асноўных пытанняў кінамастацтва.

У заключэнне дакладчык заклікаў работнікаў беларускай кінематаграфіі адлюстроўваць у сваіх творах вялікія подзвігі нашых сучаснікаў, ствараць фільмы, якія б дапамагалі выхаванню працоўных у духу аддананасці ідэям марксізма-ленінізма.

Па дакладу разгарнуліся гарачыя спрэчкі, жывы абмен думкамі. Па-ранейшаму ўсіх хвалюе сцэнарная праблема. І гэта не выпадкова, бо ад якасці сцэнарыяў, ад самой кінадраматургіі перш за ўсё залежыць якасць, а значыць, і поспех новых фільмаў. Як жа абстаяць справы са сцэнарыямі на студыі «Беларусьфільм»? Пра гэта гаварыў начальнік сцэнарнага аддзела пісьменнік М. Лужанін.

— Толькі за апошнія шэсць месяцаў, — сказаў ён, — мы заключылі восем умоў з аўтарамі. На падставе гэтых умоў ужо чатыры сцэнарыі атрымалі сваё вытворчае жыццё.

Павінен сказаць, запэўняе М. Лужанін, што ў сучасны момант студыя забяспечана ў дастатковай колькасці літаратурным матэрыялам. Чакаем яшчэ цэлы рад новых сцэнарыяў. Але праца над сцэнарыямі патрабуе пастаянных кантактаў з рэжысёрамі. Няхай сцэнарый будзе і вельмі добры, але калі няма сапраўднага мастака-рэжысёра, дык усе намаганні зрабіць высокамастацкі фільм будуць марнымі. У нас не хапае кінарэжысёраў і з гэтай прычыны многія сцэнарыі ўсё яшчэ немагчыма запусціць у вытворчасць.

Варта падумаць і пра тое, гаворыць далей прамоўца, каб стварыць на студыі спецыяльны штат кінадраматургаў, якія б звярталіся да найбольш важных і актуальных тэм нашай сучаснасці.

Кінадраматургу і рэжысёру М. Фігуроўскаму не ўсё спадабалася ў прамове М. Лужаніна, ён зусім іншай думкі аб сцэнарных справах на студыі «Беларусьфільм». Паводле слоў М. Фігуроўскага, існуючая сістэма падрыхтоўкі сцэнарыяў будуецца ў нас на суцэльным самацёку, па прынцыпу: прынясуць сцэнарый — зрабілі фільм, не прынясуць — не зрабілі. А хіба можна лічыць нармальным тое, што кожны твор кінадраматургіі павінен зацвярджацца мноствам розных інстанцый перад тым, як яго запускаюць у вытворчасць? Але самае галоўнае —паспрабуй пасля гэтага знайдзі, хто адказвае за дакладнасць і якасць сцэнарыя? Ці не таму, што вельмі многія зацвярджалі сцэнарый «Нашчадкі Макара Маркаўца» і амаль ніхто не нёс за яго поўную адказнасць, мы так і не ўбачылі на экране карціны аб беларускім рабочым класе. У сувязі з гэтым, працягвае прамоўца, трэба ў першую чаргу павысіць адказнасць дырэкцыі кінастудыі за выпуск кінапрадукцыі.

М. Фігуроўскі прапануе перабудаваць работу сцэнарнага аддзела, дамагчыся такога становішча, каб той ці іншы яго рэдактар быў «прымацаваны» да канкрэтнага сцэнарыста і рэжысёра-пастаноўшчыка карціны. І ўжо ўсе яны разам павінны ўдзельнічаць ва ўсім творчым працэсе нараджэння будучага кінатвора. Іменна рэдактар стане не толькі дарадчыкам і сябрам рэжысёра, але і непасрэдным крытыкам яго работы. Пры такой пастаноўцы справы нашы творчыя планы будуць зусім рэальнымі і здзяйсняльнымі. Няма патрэбы, гаворыць М. Фігуроўскі, аддзяляць студыю ад фабрыкі, г. зн. творчы працэс ад вытворчага. Такое рашэнне было б дачасным і проста незразумелым.

К. Губарэвіч у сваім выступленні гаварыў пра апошнія работы Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Ён кінуў папрок у адрас Саюза работнікаў кінематаграфіі БССР, які ні разу не абмяркоўваў творчасць беларускіх дакументалістаў. У саюзе не праводзяцца грамадскія прагляды твораў дакументальнага кіно.

Далей прамоўца падрабязна спыняецца на паказаным удзельнікам сходу новым мастацкім фільме «Дзень, калі спаўняецца трыццаць год». К. Губарэвіча не задавальняе творчая канцэпцыя гэтага фільма, пабудаванага да таго ж па зададзенай схеме. Каштоўнасць гэтай карціны — толькі ў тым, што яна выявіла маладога здольнага рэжысёра В. Вінаградава.

Кінаартыст В. Паначэўны расказаў пра тыя цяжкасці, з якімі заўсёды сутыкаюцца маладыя выхаванцы Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі, накіраваныя на работу ў Беларусь. Справа ў тым, што ім рэдка даецца магчымасць здымацца ў новых карцінах. У большасці нашы рэжысёры, калі падбіраюць здымачныя групы, арыентуюцца на маскоўскіх артыстаў, а маладых кінаакцёраў нашай рэспублікі не запрашаюць для выка-

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## II з'езд журналістаў Беларусі

Учора ў Мінску адбыўся II з'езд журналістаў Беларусі.

Дэлегаты з вялікім уздымам выбралі ганаровы прэзідыум з'езда ў складзе Прэзідыума ЦК КПСС.

Сакратар ЦК КПБ таварыш В. Ф. Шаура зачытаў прывітанне Цэнтральнага Камітэта КПБ з'езду беларускіх журналістаў.

З'езд абмеркаваў справаздачы праўлення Саюза журналістаў (дакладчык тав. Кляцкоў Ф. Я.) і рэвізійнай камісіі (дакладчык тав. Мінаў В. А.).

З прамовай на з'ездзе выступіў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ таварыш М. Ф. Капіч.

У рабоце з'езда прынялі ўдзел сакратар праўлення Саюза журналістаў СССР таварыш Буркоў Б. С. і госці з раду братніх рэспублік.

Выбран новы састаў праўлення Саюза журналістаў БССР і рэвізійнай камісіі.

## ЗАХАПЛЯЕМСЯ ГЕРАІЧНЫМІ СПРАВАМІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

На працягу трох дзён у Мінску знаходзілася дэлегацыя работнікаў Міністэрства асветы і культуры Народнай Рэспублікі Балгарыі на чале з намеснікам міністра Мінча Чэрневым. Госці з Балгарыі знаёміліся з пастаноўкай прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі ў навучальных установах горада і работай Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі Беларусі. Перад ад'ездам у Ленінград Мінча Чэрнеў заявіў карэспандэнту БЕЛТА:

— Мы ў захапленні ад гасціннасці, аказанай нашай дэлегацыі ў Мінску. Тут мы здолелі пазнаёміцца з пастаноўкай прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі і знайшлі многа новага і карыснага для нас.

Акрамя таго, мы пазнаёміліся з выдатнымі мясцінамі горада, з яго прыгожымі будынкамі, шырокімі вуліцамі і плошчамі. Мне, як інжынеру-будаўніку, сказаў Мінча Чэрнеў, спадабалася будова гарадскіх камунікацый і размяшчэнне плошчаў.

Знаёмячыся з экспанатамі музеяў, не можаш не захапляцца гераічнымі справамі беларускага народа. Пачуццё ўдзячнасці і павагі выклікае подзвіг брацкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі сотні тысяч беларускіх партызан змагаліся з гітлераўскімі акупантамі.

У заключэнне Мінча Чэрнеў пажадаў дружалюбнаму народу Беларусі вялікіх поспехаў у будаўніцтве камунізма.



Галоўны корпус Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Ул. І. Леніна.

Фота Ул. Крука.

